


# Клапатлівыя машыны

Алена Церашкова

*Па дарогах твайго горада ездзяць працавітыя машыны. Яны дапамагаюць людзям рабіць шмат важных спраў. Чым жа займаюцца нашыя памочнікі — машыны?*

«Хуткім дапамогам»
Саступай дарогу!
Бел-чырвоная машына
Прывязе бінты і шыны,
Кропельніцы і шпрыцы,
Розныя таблеткі.
Зможа доктар памагчы
І бацькам, і дзеткам!







Вось пад паштовай скрыняю
Стаіць машына сіняя
З касою белай рысаю —
Яе адметнай рысаю.
Лісты збірае тут і там
І ўсе адвозіць на Паштамт,
Бо добрыя навіны
Хутчэй дайсці павінны!



З ровам грузавік імчыць.
Што такое? Дом гарыць!
Да пажарнага гідранта
Цягне рукавы каманда,
Выраслі драбіны ў неба,
Гасіць полымя вада…
Жартаваць з агнём не трэба:
Можа здарыцца бяда.



Стала нашая машына.
Можа, больш няма бензіну?
Можа, рухавік зламаўся?
Тата моцна знерваваўся:
Ляпаў накрыўкай капота,
Злосна торкаў колы ботам…
Не хвалюйся гэтак, тата!
Выклічам эвакуатар!

Ля кантэйнера, у скверы,
Завіхаўся смеццявоз.
«Лапай» скрыню ашчаперыў
І над кузавам патрос.
Сцепануўся, ушчыльніў —
І на сметнік пакаціў.
Выкідайце, людцы, смецце,
Заўтра ён ізноў прыедзе!






На будоўлі ёсць машына:
Кузаў круціцца няспынна.
Едзе і бетон мяшае —
Вось руплівіца якая!
Калі добра размяшала —
Будзе дом стаяць трывала.
А як ленавалася —
Трэсне ды разваліцца.



**А ці ведаеш ты…**

…у якіх машынах ездзяць паштальёны, дактары, пажарныя, аўтамеханікі?

…што некаторыя з гэтых машын маюць права ехаць на чырвонае святло? Падумай, якія і чаму.

Навошта трэба ведаць правілы дарожнага руху? А як ты паводзішся на дарозе?






Яраш Малішэўскі

# Краіна замкаў,  краіна рыцараў



***З даўніх часоў Беларусь, якая месціцца ў самым цэнтры Еўропы, звалася «краінай замкаў». Дзясяткі іх, пабудаваныя нашымі продкамі, былі перашкодай на шляху ворагаў. А дзе замкі — там і рыцары. Бясконцыя войны, якія навальваліся на наш край, змушалі мужных людзей бараніць Радзіму. Смелыя, спраўныя, добрыя ваяры, здольныя павесці за сабою іншых, і называюцца рыцарамі.***



*Рыцарскія даспехі можна параўнаць з больш познім танкам, бо добры даспех прабіць было вельмі цяжка. Важыць яны маглі тры дзясяткі кілаграмаў, а турнірныя — і ўдвая больш. Складаліся даспехі са шматлікіх дэталяў, колькасць якіх магла даходзіць да 200. Іх выраблялі майстры-збройнікі, і каштавалі тыя даспехі вельмі дорага — часам як вялізны статак кароў.*

У беларускай гісторыі рыцараў ставала. Гэта і легендарны полацкі князь Усяслаў Чарадзей, што з’яднаў крывіцкія землі ў магутнае Полацкае княства. Гэта і Вітаўт Вялікі, за часы якога наша дзяржава — *Вялікае Княства Літоўскае* — разлягалася ад Балтыйскага да Чорнага мора і была найбуйнейшай дзяржавай у Еўропе. Рыцар — гэта і вялікі гетман *Канстанцін Астрожскі*, які шмат разоў граміў ворагаў, баронячы родны край ад маскалёў ды татараў. Жанчына-рыцар — княгіня *Анастасія Слуцкая*. Пяцьсот гадоў таму яна перамагала драпежных крымчакоў. Яшчэ адна дзяўчына, якую з поўным правам можна назваць рыцарам — слынная *Эмілія Плятэр*. Яна змагалася ў паўстанцкіх аддзелах у 1830 годзе і сталася прыкладам самаахвярнасці і адвагі. *Тадэвуш Касцюшка*, *Давыд Гарадзенскі*, *Януш Радзівіл* — ды ці мала нарадзіла вояў-герояў зямля беларуская? Імя кожнага з гэтых славутых людзей залатымі літарамі ўпісана ў нашую гісторыю. Пра іх апавядаюць кнігі і вершы, паданні ды песні. Пра людзей, што сталіся сімвалам роднага краю, прыкладам таго, як трэба жыць, каб жыла Бацькаўшчына.

*На гербе Вялікага Княства Літоўскага «Пагоня» прысутнічае выява вершніка на кані з мечам у руцэ. Герб стаўся нацыянальным сімвалам беларусаў і літоўцаў. Паходжанне герба «Пагоня» сягае ўглыб стагоддзяў і звязана са старажытнай вайсковай традыцыяй — у выпадку раптоўнага нападу ворагу кожны мужчына, які меў права насіць зброю, мусіў пешкі або конна рушыць у пагоню.*



*Афіцыйны статус «Пагоні» як дзяржаўнага герба быў замацаваны ў Статутах Вялікага Княства Літоўскага.*

Калі прамаўляеш «рыцар», то адразу ўяўляюцца даспехі, мечы, дзіды ды бітвы часоў сярэднявечча. Адным словам, далёкія стагоддзі. І гэта безумоўна так. Тады трэ было ўмець карыстацца зброяй, быць добрым вершнікам, моцным і загартаваным. Не меншае значэнне мела і моц духу — без яе аніякая зброя не дапаможа…

Але насамрэч рыцары ёсць і ў наш час, ім можаш быць і ты. Трэба толькі любіць сваю Радзіму і заўжды быць гатовым бараніць яе. А памятаючы пра слаўных продкаў, заўжды разумееш — прыкладаў у нас багата, і кожны час можа даць гэтую магчымасць — стацца рыцарам. Абаронцам Беларусі.




## ЗНАКАВЫЯ БІТВЫ

Грунвальдская бітва адбылася 15 ліпеня 1410 года. У ёй аб’яднаныя сілы Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы перамаглі нямецкіх рыцараў-тэўтонаў. Гэтая перамога — адна з самых славутых у нашай гісторыі.

У Клецкай бітве 6 ліпеня 1506 года войска Вялікага Княства Літоўскага на чале з Міхалам Глінскім перамагло крымскіх татараў.

Бітва пад Воршай адбылася 8 верасня 1514 года паміж войскамі Вялікага Княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы. 35-тысячнае войска пад кіраўніцтвам знакамітага вялікага гетмана Канстанціна Астрожскага перамагло 80-тысячнае маскоўскае войска.



# ВЫРАТУЙ КАРАЛЕЎНУ

*Злы цмок паланіў каралеўну. Рыцар едзе ратаваць прыгажуню, але на шляху яго чакаюць перашкоды...*

Прыдумала і намалявала Юлія Малахоўская

Полацак

Віцебск

Крэва

Друцак

Менск

СТАРТ

Горадня

Новагародак

Слуцак

Камянец

Берасце

Пінск

Тураў

Гомель

ФІНІШ

*Пазнакі на мапе:*

- цябе зачаравалі русалкі ці звялі чэрці, альбо ты заблукаў у лесе — прапусці крок
- ты зрабіў добрую справу і атрымліваеш манетку
- бераг ракі затрымлівае цябе нават на сярэдзіне кроку
- у вялікім горадзе можаш набыць дадатковы крок за манетку
- у цэнтры княства мусіш спыніцца нават на сярэдзіне кроку. Кінь кубік: калі выпала 1, 2, 3 — прапусці крок; калі выпала 4, 5, 6 — мясцовы князь дапаможа табе зрабіць дадатковы крок
- у варожым горадзе ты трапіш у палон і мусіш вярнуцца да пачатку шляху

*Для гульні трэба:* фішкі па колькасці ўдзельнікаў, кубік, манеткі (гузікі).

*Годныя рыцары і прыўкрасныя паненкі! Цяпер вы можаце пабудаваць уласны казачны замак. Папрасіце дарослых дапамагчы вам.*

*Вам спатрэбяцца:*

- скрынка з-пад абутку;
- 4 кардонавыя трубкі ад папяровых рушнікоў;
- кардон;
- фарбы, пэндзаль;
- просты аловак;
- нажніцы, клей, скотч.

# Рыцарскі ЗАМАК



1 Па краі скрынкі з-пад абутку нажніцамі павыразайце зубчыкі. Папрасіце дарослага нажом прарэзаць у сцяне паўкруглыя вароты.



2 Выразаем зубчыкі па краі чатырох вежаў — кардонавых трубак. Папрасіце дарослага надрэзаць трубкі на вышыню борцікаў скрынкі. Замацуйце трубкі па кутах скрынкі — так, як паказана на фотаздымку.



3 З кавалку кардону памерам 30×30 см скруціце цыліндр. Склейце яго. З чырвонага кардону ці паперы выражце паўкруг радыюсам 10 см. З яго зрабіце дах для цэнтральнай вежы-данжона.





4 Прыляпіце дах да ўнутранай сценкі вежы скотчам. Размалюйце данжон і сцены замка. Цяпер можна сяліць у ім рыцараў і прынцэс!

*Рыцарскі замак будавала Настасся Грынчанка з мамай Палінай*




*Напісала і намалявала Беатрыкс Потэр, пераказала Алена Байка*

# Казка пра спадарыню Мышэвіч

*Пачатак у нумары 2/2011*



Спадарыня Мышэвіч вырашыла заняцца пчоламі па абедзе.

Вярнуўшыся ў гасцёўню, яна пачула, як нехта гучна кашляе, і ўбачыла ўласнай персонай спадара Жабовіча!

Ён сядзеў у крэсле-гайданцы: складзеныя рукі, шырокая ўсмешка, выцягнутыя да камінка ногі.

Спадар Жабовіч жыў у канаве пад жываплотам, у надзвычай бруднай і мокрай канаве.

— Як маецеся, спадар Жабовіч? Авохці, Вы ўвесь мокры!

— Дзякую, дужа дзякую, спадарыня Мышэвіч! Я крыху пасяджу і падсушуся, — сказаў спадар Жабовіч.



Ён сядзеў і ўсміхаўся, а вада сцякала з яго жупана. Спадарыня Мышэвіч пайшла па анучу.



Спадар Жабовіч сядзеў сабе і нікуды не сыходзіў — урэшце спадарыня Мышэвіч мусіла спытаць, ці не паабедае ён з ёй.

Спачатку яна прапанавала яму вішнёвых костачак.

— Дзякую, вельмі дзякую, спадарыня Мышэвіч! Няма зубоў, няма зубоў, няма зубоў! — адказаў спадар Жабовіч.

Ён шырока разявіўся: у роце насамрэч не было ніводнага зуба.

Пасля яна прапанавала яму насенне дзядоўніка.

— Кум-кум, цынцы-брынцы! — сказаў спадар Жабовіч і падзьмуў: — Пуф-пуф-пуф! — Зярняткі дзядоўніка разляцеліся па ўсім пакоі.





— Дзякую, шчыра дзякую, спадарыня Мышэвіч! Што мне сапраўды засмакавала б — гэта сподачак мёду!

— Баюся, мёду ў мяне няма, спадар Жабовіч, — сказала спадарыня Мышэвіч.

— Кум-кум, цынцы-брынцы, спадарыня Мышэвіч! — усміхнуўся спадар Жабовіч. — Але ж я чую яго пах, на яго і прыйшоў.

Спадар Жабовіч важка ўстаў з-за стала і пачаў шукаць па шафах.

Спадарыня Мышэвіч хадзіла за ім з анучай і выцірала вялікія мокрыя сляды.



Калі ён пераканаўся, што ў шафе мёду няма, ён пашныпарыў у лёх.

— Дальбог, дайце веры, Вы там захраснеце, спадар Жабовіч!

— Кум-кум, цынцы-брынцы, спадарыня Мышэвіч!

Спярша ён ушчыміўся ў камору.

— Кум-кум? Цынцы-брынцы? Няма мёду? Няма мёду, спадарыня Мышэвіч?

У сушылцы для посуду хаваліся тры кузурачкі. Дзве ўцяклі, а самую маленькую ён схапнуў.

Далей ён прашчыміўся ў падкаморак. Там ласавалася цукрам спадарыня Матылевіч, якая адразу ж выпырхнула праз акно.

— Кум-кум, цынцы-брынцы, спадарыня Мышэвіч! Ды ў Вас, падобна, поўная хата гасцей!

— Да таго ж без запрашэння! — панаракала спадарыня Мышэвіч.

Яны пайшлі далей у лёх.

— Кум-кум!

— Бзбом-бом!

За рогам спадар Жабовіч сустрэў Бзыка Чмялевіча, схапіў яго, але адразу кінуў.

— Не люблю чмялёў. Дужа калматыя, — патлумачыў спадар Жабовіч, выціраючы рот рукавом жупана.

— Прэч адсюль, брыдкая старая жаба! — віскнуў Бзык Чмялевіч.






— Я звар'яцею! — прастагнала спадарыня Мышэвіч.

І яна схавалася ў склепе для арэхаў. Тым часам спадар Жабовіч узяўся выцягваць гняздо з пчоламі, не зважаючы на іх джалы.

Калі спадарыня Мышэвіч наважылася выйсці, усе ўжо сышлі.

Але вэрхал паўсюль быў страшэнны.

— Ніколі не бачыла такога гармідару. Мох, пух, ліпкія плямы ад мёду, вялікія і маленькія сляды — па ўсім маім чысцюткім доме!

Яна сабрала мох ды рэшткі воску.

Пасля яна выйшла і прынесла некалькі галінак, каб часткова засланіць уваход.

— Я зраблю яго вельмі вузкім, каб спадару Жабовічу не ўшчыміцца!

З кладоўкі спадарыня Мышэвіч прынесла мыла, анучу і новую шчотку. Але яна была занадта стомленая, каб нешта рабіць. Яна прысела і заснула проста ў крэсле, а пазней парабралася ў ложак.

— Калі ж у мяне будзе зноў чыста? — прамармытала бедная спадарыня Мышэвіч.



Наступнага дня спадарыня Мышэвіч устала на золку і пачала прыбіраць свой дом.

Два тыдні яна мяла, шкрабала, мыла, націрала мэблю воскам і паліравала алавянныя лыжачкі.

Калі ўсё стала зноў прыгожым і чыстым, яна зладзіла свята і запрасіла пяць іншых маленькіх мышак, а спадара Жабовіча не паклікала.

Той, вядома, унюхаў святочныя пахі і прыйшоў да дома спадарыні Мышэвіч. Аднак прашчыміцца ў дзверы не здолеў.

Спадару Жабовічу перадалі жалудовую місачку з мядовай расой, і ён зусім не пакрыўдзіўся.

Ён сядзеў на сонейку і прамаўляў:

— Кум-кум, цынцы-брынцы! Вашае здароўе, спадарыня Мышэвіч!

*КАНЕЦ*



забаўляльна-навучальны часопіс для дзетак
Гарбузік

Нашыя дзеткі
dzietki.org

Нумар падрыхтавалі:
рэдактары *Вольга Мазурава,*
*Паліна Грынчанка*
кампутарная вёрстка і дызайн
*Ірына Бурносенка*
пры дапамозе *Юліі Малахоўскай,*
*Алены Церашковай*

# ЗАГАДКАВАЯ КРЫЖАВАНКА




*Па гарызанталі:*

3. Гаршчок разумны,
хоць сем дзірак мае.

4. Сама пані ў каморы,
а косы на дворы.

5. Уначы гуляе,
Удзень спачывае,
Мае круглыя вочы,
Бачыць сярод ночы.

6. Без рук б'е,
без ног ідзе,
Усё кратаецца,
а не жыве.

*Па вертыкалі:*

1. Скрып, скрып, скрып –
Вырас на кіёчку грыб.

2. Стаяць вілы, на вілах
бочка, на бочцы гладыш,
на гладышы лес.

3. Жоўты, але не рэпа;
Круглы, але не сонца;
З семкамі, але не сла-
нечнік.

4. Хто над намі
Дагары нагамі?

*Паліна Грынчанка*

Адказы да крыжаванкі, а таксама дадатковыя матэрыялы
да гэтага нумара глядзіце на сайце dzietki.org